Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная часапіс, выходзіць 4 разы ў месяц

Цана асобнага нумару 15 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі
Вільня, Вострабрамская 9.
Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты: на 1 год 4 зл. 50, за паўгоду 2 зл. 40, за 3 месяцы 1 зл. 30, за 1 месяц — 50 гр.

Год II. Вільня, 29 Студня 1932 г. № 4 (29)

## ПРАТЭСТУЕМ!

Польская прэса і польскае грамадзянства з нязвычайнай гучнасьцяй апавяшчае ўсяму сьвету аб тых рэпрэсіях, якія нацыяналістычны ўрад Латвіі, яшчэ гэтак нядаўна горача вітаны палякамі, пачаў тасаваць да польскае меншасьці, патаптаўшы сьветлыя традыцыі папярэдніх урадаў, шанаваўшых шчыра правы ўсіх меншасьцяў. Тое-ж робяць расейцы, тое-ж—немцы, бо-ж новы курс латвійскае нацыяналістычнае палітыкі скіраваны роўна *проці ўсіх нацыянальных меншасьцяў Латвіі*. Але ніводная з названых меншасьцяў — ані палякі, ані расейцы, ані немцы — ніводным словам не ўспамінаюць аб тым, што такія самыя рэпрэсіі *йшчэ больш балюча б'юць па латвійскіх беларусах*, — больш, бо-ж беларусы ў Латвіі — найслабейшая з меншасьцяў. І слабасьць іх, як і ў Заходняй Беларусі, у значнай меры вынікае з расьцярушанасьці тамтэйшага беларускага грамадзянства, да якога пранікла тая-ж самая зараза, каторая разьядае нас тут.

Тое, што ў польскую прэсу не пранікае ніводная вестка аб ударах, робленых беларусам у Латвіі, лёгка зразумець: тамтэйшыя палякі вядуць у Латвіі такую ж варожую да беларусаў палітыку, як і польскія нацыяналісты ў Польшчы. Што душаць беларусаў — гэта-ж, па іхняму, добра! Блага, што душаць і палякоў...

А душаць беларусаў, як і іншыя меншасьці ў Латвіі, *плянова і сыстэматычна*. З 1-га студня зьліквідаваны ўсе школьныя інспэктараты меншасьцяў, у тым ліку і беларускі; з 1-га красавіка спыняюцца дапамогі ўсім меншасьцёвым тэатрам; з 1-га жніўня ліквідуюцца беларускія вучыцельскія курсы — адначасна з ліквідацыяй такога роду школ усіх меншасьцяў; пад пагрозай стаіць дзяржаўная беларуская гімназія у Дзьвінску з прычыны павышэньня платы за навуку з 80 лат. да 150 лат., чаго сялянскія дзеці плаціць ня здолеюць; другой гімназіі — прыватнай — у Рызе мае быць зьменшана дапамога, хаця яе дае не ўрад, а места Рыга. Урэшце — робіцца надіск на вучыцельства дзяржаўных беларускіх школ, каб злучаць апошнія з латышскімі ў так званыя „мяшаныя“, у якіх навука йдзе *палатышску і парасейску*! Вось той абраз, які бачым мы сягоньня ў Латвіі.

Там, у Латвіі, няма каму пратэставаць проці ўціску беларусаў дарваўшыміся да ўлады латышскімі нацыяналістамі. Няма каму падняць гэтае справы і перад Лігай Нацыяў, што, пэўне-ж, будзе зроблена і палякамі, і расейцамі, і немцамі. Дык няхай-жа пачуецца хоць гэты наш цьвёрды *голас пратэсту* — голас тэй часьці грамадзянства беларускага, якая, верная высокім агульналюдзкім ідэалам, заўсёды востра асуджала ўсякія гвалты „пануючых нацыяў“ над падлеглымі ім „меншасьцямі“, незалежна ад таго, ці датычыла гэта нас, беларусаў, ці каго іншага, хоць-бы нашага ідэйнага ворага.

Наш пратэст, пэўне-ж, астанецца бяз водгуку ў нацыяналістычных колах Латвіі, – але *латышскія соцыялісты* хіба ня пройдуць моўчкі міма яго: у іх мы заўсёды мелі сваіх абаронцаў — і, верым, яшчэ будзем мець, калі жываеды-нацыяналісты будуць прымушаны ўступіць захопленую ўладу працоўным масам і іх экспозытуры.

## ТРЭБА ЗЬМЕНЫ.

У дзяржаўным жыцьці Польшчы намячаецца цэлы рад зьменаў. Урад праводзіць у Сойме новы закон аб арганізацыі самаўрадаў. На парадку дня стаіць рэформа школьніцтва—і іншыя.

Вось-жа ў сувязі з гэтым неабходна выясьніць, на каго—на якую клясу ці сфэру грамадзянства павінен абаперціся польскі ўрад у сваей рэформатарскай дзеяльнасьці. Бо-ж дагэтуль уся дзяржаўная палітыка апіралася пераважна на сфэры, якая зьяўлялася найменш чысьленай, але найбагацейшай матэрыяльна: на сфэры абшарніцкай,—і ў выніку гэтага розныя дзяржаўныя установы і законы залішне ўважліва адносіліся да голасу гэтае сфэры і—да яе інтарэсаў.

Сярод кіраўнікоў польскае палітыкі вытварыўся такі пагляд, што ўсё гаспадарчае жыцьцё Польшчы наагул залежыць ад буйных зямляўласьнікаў. На іх глядзелі, як на адзіных вытворцаў сельска-гаспадарчых прадуктаў—хлеба і т. п.; ад іх спадзяваліся вялікіх уплываў падаткаў у дзяржаўныя касы. Лічачыся з голасам абшарнікаў, польская дзяржаўная ўлада спыніла зямельную рэформу—навет у тым куртатым відзе, у якім яна выйшла з Сойму. Лёзунгам польскае палітыкі было: не драбіць вялікіх абшараў — „фабрыкаў хлеба“! Літве і Латвіі, якія падзялілі між сялянамі дворныя абшары, сулілі—гаспадарчае банкруцтва!—Але аказалася, што ані Літва, ані Латвія з сваім разбагацеўшым на зямлю сялянствам не збанкрутавалі. Наадварот: збанкрутавалі ў Польшчы абшарнікі, хоць пабралі з дзяржаўнага скарбу вялізарныя пазыкі на падняцьце „культуры“ двароў ды „залягаюць“ у аплаце падаткаў так, як ніколі не „залягалі“ дробныя сялянскія гаспадаркі навет у найцяжэйшых варунках.

Апошнія гады далі лішне яркі доказ таго, што дзяржава ня можа будаваць свайго дабрабыту на штучным падтрымліваньні вялікшае зямельнае ўласнасьці, няздольнае выпаўняць ані сваіх гаспадарчых, ані фінансавых абавязкаў у адносінах да дзяржавы. А галоўнае — што ўся ранейшая „стаўка на абшарніка“ у выніку сваім давяла да згаленьня сялянства і ўтраты ўнутранага рынку для вырабаў польскае прамысловасьці, якая заўсёды залежыць ад пакупное здольнасьці шырокіх народных масаў—сялян і работнікаў. Вёска гэтак зьбяднела, што ўжо нічога з места, апрача солі й газы, ня купляе.

У гэтым—адна з галоўных унутраных прычын сучаснага гаспадарчага крызісу, зьвязанага, ведама-ж, з крызісам сусьветным. Каб яе ўхіліць, трэба распачаць аздараўленьне сучасных ненармальных варункаў гаспадарчага жыцьця дзяржавы. Дзяржава павінна даць фінансавую помач сялянству—усялякімі крэдытамі і дапамогамі ў гаспадарцы — прынамся ў такой меры, якой была дапамога буйным уласьнікам. А з адрачэньнем ад абмылковага пагляду на гаспадарчую і дзяржаўную „карыснасьць“ вялікіх двароў мусіць пайсьці і зьмена настаўленьня „на абшарніка“ ў-ва ўсіх іншых галінах дзяржаўнага жыцьця, перад усім—у галіне самаўрадавай і школьнай.

У гмінных самаўрадах мусіць быць праведзены прынцып шырокае самадзейнасьці сялянства. Гаспадарчыя інтарэсы гэтае найбольш чысьленае групы насяленьня дзяржавы мусяць быць пастаўлены на першым мейсцы—так, як дагэтуль на першым мейсцы стаўляліся інтарэсы буйнае ўласнасьці. На вялікі жаль, гэткае тэндэнцыі ў урадавым праекце новага закону аб самаўрадах—ня відаць...

Тое-ж мусіць быць зроблена і ў галіне школьнай. Цяпер, як падлічыў „Ilustr. Kur. Codzienny“ (№ 21), дзяржава траціць баечныя сумы на ўзгадаваньне інтэлігенцыі, якое няма куды падзець, да чаго прычапіць. У дзяржаўных вышэйшых школах Польшчы вучыцца звыш 40.000 студэнтаў і студэнтак, а кожны канчаючы дзяржаўную вышэйшую школу абходзіцца дзяржаве круглую суму: 20 000 злотых... Між гэтай моладзяй пераважаюць, ясна ж, дзеці заможных станаў. А для вялізарнае большасьці народу, асабліва-ж—для вёскі, істнуюць вельмі нізка пастаўленыя пачаткавыя школы, дый то — у недастатачнай лічбе. Часта-густа сялянскія дзеці, канчаючы, „повшэхную“ школу (у нас—заўсёды польскую, ведзеную ў мала зразумелай народу польскай мове), ледзьве - ледзьве ўмеюць сылябізаваць і расьпісацца. Якая розьніца!—Вось, пры правядзеньні праектаванае школьнае рэформы ізноў мусіць быць уведзены новы прынцыповы пагляд на сялянства: селянін — дробны вытворца хлеба — мусіць мець поўны курс сямігодкі, датаго-ж пастаўленае так, як падобныя школы пастаўлены, да прыкладу, у Францыі. Сямігодка на вёсцы, ведзеная ўсюды ў тэй мове, якой дзеці гавораць у сябе дома, павінна шмат месца ўдзяляць і справам сельскае гаспадаркі. Пры такіх умовах і вытворчая, і адначасна пакупная сіла селяніна сама сабой высака падымецца, даючы вялізарную карысьць усяму гаспадарчаму жыцьцю дзяржавы.

Падставай-жа такое перабудовы дзяржаўнага законадаўства, настаўленага „на працаўніка“, мусіць быць зямельная рэформа, якая ясна і выразна давала-бы зямлю сялянству. Але аб гэтым—другім разам.

Адно скажам сягоньня: калі польская дзяржаўная палітыка не пакіруецца на гэты новы шлях, Польшча можа ў будучыні перажыць цяжкія мамэнты...

# Гаспадарчы крызіс у 1931 г.

1931 год быў у галіне гаспадарчага жыцьця хіба-ж найцяжэйшым годам, які толькі памятае сьвет.

Крызіс закрануў усе галіны гаспадаркі—дзяржаўнай і прыватнай, падбіўшы ўсе бяз вынятку клясы грамадзянства. Лічба беспрацоўных дайшла ў ім блізу да 30 мільёнаў. Прадукцыя найвялікшых прамысловых дзяржаваў сьвету спала на 20 прац.—раўнуючы з 1928 годам. Абароты міжнароднага гандлю зьменшыліся на 40 прац.—раўнуючы з 1929 г.

Прычынаў такога крызізу—шмат: ёсьць прычыны і чыста гаспадарчыя, ёсьць і сацыяльныя, шмат і чыста палітычных.

Цяжка адбіўся сусьветны крызіс і ў Польшчы. На шчасьце аднак у Польшчы ўтрымалася валюта, а навет у Англіі валюта пацярпела сільны крах. Праўда, утрыманьне валюты дорага каштавала Польскаму Банку: яго залаты запас зьменшыўся за мінулы год з 850 да 681 мільёнаў, зьменшыўшы залатое пакрыцьцё грашовага абегу ў краі з 55 прац. да 49 прац. Цяжка ішлі ў мінулым годзе прадбачаныя залішне шчодра ў бюджэце паступленьні дзяржаўных даходаў. За 8 месяцаў бюджэтнага году (ад сакавіка) падаткі і дзяржаўныя манаполіі далі толькі крыху больш палову прадбачанай сумы даходаў (51.1 прац.).

Спадак агульнай прамысловай прадукцыі ў Польшчы — у параўнаньні з 1928 годам — дайшоў у канцы 1930 г. да 28 прац., а ў 1931 — яшчэ значна ніжэй. Спадак англійскай валюты ў верасьні мін. году балюча ўдэрыў па вывазе вугальля з Польшчы ў Англію, як наагул і па іншых галінах прадукцыі Польшчы, працуючых у значнай меры на англійскі рынак. Цэны на ўсе вырабы прамысловасьці, асабліва-ж на сельска-гаспадарчыя прадукты, страшэнна спалі. Зьменшыліся аднак-жа адначасна і гандлёвыя абароты—у зьвязку з агульным глыбокім зьбядненьнем краю. У зьвязку з гэтым вельмі значна зьменшыліся ўклады жыхарства ў касы ашчаднасьці і банкі. Зачынілі апэрацыі некалькі банкаў. Курсы на ўсялякія грашовыя паперы, як дзяржаўныя, таксама і прыватныя,—значна зьнізіліся.

Усё гэта, зразумела, адбілася і на лічбе безработных, якая расла вельмі шпарка: у лістападзе 1930 г. ў Польшчы было іх 210.000, у лістападзе 1931 г.—260.000.

Усё гэта ня было б ужо гэтак страшна, калі-б можна было думаць, што крызіс дайшоў ужо „да дна". Але якраз гэтага „дна", як кажуць эканамісты, яшчэ ня відаць.

# Японска-кітайская вайна.

21 студня ў Жэнэве першы раз сабралася нарэшце выбраная яшчэ ў сьнежні Радай Лігі „Манчжурская камісія", якая мае заняцца японска-кітайскім канфліктам.

Камісія складаецца з 5 дэлегатаў вялікіх дзяржаў: Англіі, Францыі, Італіі, Нямеччыны і Амэрыкі.

Брыян, былы старшыня Рады Лігі, прыслаў у камісію пісьмо, у якім сьцьвярджае, **што за час ад 10 сьнежня да 21 студня палажэньне ў Манчжурыі значна пагоршылася;** японцы выкарысталі час дзеля пашырэньня акупацыі, ня гледзячы на тое, што абяцаліся Лізе „не пагаршыць плажэньня".

Ёсьць надзея, што „Манчжурская камісія" некалі выбярэцца ў Манчжурыю. У Нанкіне (хоць і гэта далёка ад Манчжурыі) апынуўся ўжо адзін сэкрэтар камісіі...

**Тым часам—Японія захапіла Харбін і высадзіла войска ў Шанхаі, абстраляўшы горад.**

# Міжнародавы вузел.

### Адклад Лёзанскай канфэрэнцыі.

Адклад Лёзанскай канфэрэнцыі, на якую проста... не паехалі яе ўчасьнікі, — стаўся фактам. У выніку гэтага Мак-Дональд запрапанаваў Лявалю асабіста спаткацца, каб неяк дайсьці да магчымага ўзгодненьня паглядаў на справу адшкадаваньняў. Англійскі ўрад, які хоча наагул скончыць з адшкадаваньнямі цалком, ня веручы ў тое, што немцы будуць плаціць, і хочучы забясьпечыць прыватныя пазыкі англійскіх банкаў Нямеччыне, мае зрабіць пэўныя ўступкі Францыі. Як быццам і нямецкі ўрад толькі тактычна адмаўляецца ад усялякіх сплатаў, каб вытаргаваць сабе вялікшыя палёгкі з боку Францыі. Дык магчыма, што канфэрэнцыя адложана на кароткі час, а ў часе перарыву—пры спатканьні эўрапэйскіх і амэрыканскіх дыплёматаў у Жэнэве на іншых канфэрэнцыях—дойдзе да пэўнага кампрамісу і ў справе адшкадаваньняў. З прамовы Лявала відаць, што Францыя гатова ўжо пайсьці на значныя ўступкі.

### Дзьве „гутаркі".

Адзін з англійскіх журналістаў апублікаваў дзьве сьвежыя „гутаркі" свае з двума „палітычнымі павадырамі" сучаснай Нямеччыны: з галавой ураду Брюнінгам і з галавой яе „нацыянальнай апазыцыі"—Гітлерам.

Брюнінг, хаця й паўтарыў, што Нямеччына плаціць ня можа, але жаліўся, што яго „прыватная гутарка з англійскім паслом папала нажаль (?) у прэсу і папсавала яму ўсю яго палітыку" (?), дый выразіў надзею, што, ня гледзячы на ўсё, за гэты год дойдзе да поўнага паразуменьня паміж Нямеччынай і дзяржавамі ва-усіх спрэчных пытаньнях.

Агулам—галава афіцыяльнай Нямеччыны зрабіў на англійскага журналіста ўражаньне „змучанага цяжкай адказнасьцяй, але цьвёрдага ў сваіх мэтах чалавека". Наадварот—Гітлер мае выгляд „юнацка бадзёрага, горача, прост-шалёна йрвучагася да ўлады чалавека, які верыць цьвёрда, што ўладу возьме дый возьме сам, адзін — без усялякіх кампрамісаў ці коаліцыяў"...

### Францыя націскае на Амэрыку.

Каб націснуць на Амэрыку ў справе адшкадаваньняў і ваенных даўгоў саюзьнікаў, францускі ўрад пачаў ізноў страшыць яе банкіраў — забіраць францускае золата з амэрыканскіх банкаў. Такім чынам—за апошні кароткі час у Францыю прыбывае ўжо другі транспарт золата (273 скрыні на суму 11.400 тыс. даляраў), якое выбраў Банк Францыі з амэрыканскага Фэдэральнага Рэзэрвнага Банку.

# Жыцьцё Польшчы.

### Падпісаньне польска-радавага трактату аб ненападаньні.

З Масквы прышла вестка, што 25 студня падпісаны (пакуль што толькі першымі літэрамі паўнамоцнікаў) тэкст трактату аб узаемным ненападаньні між Польшчай і СССР. З польскага боку падпісаў пасол Патэк, з боку Радаў камісар Літвінаў.

Уступ кажа, што падставай новага трактату ёсьць Рыжскі трактат 1921 г., а таксама трактат Кельлёга.

Арт. 1 кажа, што абедзьве дзяржавы выракліся вайны ды ўсялякіх варожых актаў, якія імкнуцца да нарушэньня тэрыторыяльнае цэласьці і палітычнай незалежнасьці адна адной.

Арт. 2 прадбачыць адмову з боку абедзьвюх старонаў усялякай дапамогі трэцяй дзяржаве, якая напала-б на якую з іх. А

# Што чытаюць нашы дзеячы?

### Невялікі фэльетон.

(*Фэльетон напісаны перад перавыбарамі у „Нацкоме"*).

Нядаўна да мяне на вёсцы прыходзе некалькі гаспадароў-суседзяў і кажуць:

— Едзеш, браток, у Вільню заўтра. Даведайся, родненькі, чаго там нашы дзеячы, што яшчэ на волі, ня могуць падзяліць. Сварацца і сварацца. Беларусь даўно падзелена, а больш да падзелу няма і чаго ў гэты фінансавы і эканамічны крызіс. Чытаем мы газэту і ніяк ня можам зразумець, якога ражна ім трэба і чым яны запраўды займаюцца. Чаму беларускі рух неяк паволі рухаецца?

— Добра, — кажу, — і мяне гэта пытаньне цікавіць.

Прыяжджаю. „Дзе і каго пытацца?" думаю сабе. Ужо-ж найлепей мне адкажа „Нацыянальны Камітэт". Зьяўляюся да самога прэзэса. Хоць ад яго вельмі пахнець ладанам, але чалавек вельмі прыемны, мяне ветліва прыняў і кажа:

— Адну хвіліначку. Я толькі дакончу разьдзел кніжкі.

Сеў і чытае, а сьлёзы з гарошыну так і капаюць на кніжку.

„Житіе Сьвятых чытае"—думаю сабе. Але я памыліўся. Як толькі пан старшыня злажыў кніжку, на хрыбце яе я прачытаў: „Убійство царской семьі" Сакалова. Аправа новенькая і літары на ёй залатыя.

Старшыня сьлёзы ручнікам выцер, ручнік выкруціў і мілым галаском адазваўся:

— Я да Вашых услугаў.

— Даруйце, пане старшыня, — пачаў я — мне здаецца, шта ў нашым руху неяк замала руху зрабілася. Ці не магу ад Вас даведацца прычыны гэтага сумнага зьявішча? Цікавіць мяне такжа, якія пляны на будучыню маюць нашы дзеячы і паўдзеячы, г. зн. прэзэсы, паслы, экспаслы, рэдактары, мастакі і т д.

— Вельмі мне прыкра, пане Лявон, але скажу Вам толькі тое, што нічога не скажу. Не велѣно! Да!

І выцягнуў руку на разьвітаньне.

Іду я сумны па вуліцах Вільні і думаю, што мне сказаць прыехаўшы да хаты? Трэба-ж нешта даведацца. Бо-ж ведаць, што чытае старшыня Нацкому, гэта, хоць важна, але замала. Тут мне прышла ў галаву шчасьлівая думка. Прышоў я ў адну беларускую кнігарню і пытаюся:

— Ці ня можаце мне, паночкі, сказаць, якімі кніжкамі цікавяцца нашы рожныя дзеячы, гэта знача, што яны ў вашай кнігарні купляюць?

На мяне глянулі, як на вар'ята, і пытаюцца:

— На што-ж гэта Вам?

— Дзеля навуковых досьледаў над цяперашнім крызісам. Кніжка характэрызуе чытача, кажу—і думаю ўсё аб „Убійствѣ царской семьи".

— Гэта можна — адказаў кнігар. Прынёс сьпісак кніжак, прададзеных у мінулым годзе, і сказаў, хто іх купляў.

Таго дня аблётаў я ўсе беларускія кнігарні і бібліотэкі ў Вільні і злажыў цікаўны сьпісак. Працу сваю падаю да ведама грамадзянства, якое з назоваў (не са зьместу) кніжак мае магчымасьць найлепш ор'ентавацца аб плянах, настроях і перажываньнях большасьці нашых дзеячоў у Вільні. Каб нікога не пакрыўдзіць неадпаведным гіерархічным ступняваньнем, прозьвішчы, крыху зьмяніўшы, падаю ў альфабэтным парадку.

1) Ацец Адамскі (ў міры Полацкі) чытае наступныя кніжкі: „Сон на балоце" Кудзелькі. Аляхновіча „Цені", Базылішк", „Чорт і баба". З газэт найбольш цікавіцца „Беларускім Звонам".

2) З божай ласкі Антон I: „Як бараніцца ад заразы" Д-ра Былінскага (Способы абароны ад палітпрацiўнікаў).

3) Вільдзюкоўскі Адам (псэўдонім „Аўтабусны): „Прапаў чалавек" Якуба Коласа.

4) Востры Р. дырэктар. (Глядзі Антон I).

5) ГадЛеў-Шчонак старшыня Б. І. Г. К. (Скарот азначае: Больш Інтэнсыўна Гавары і Крычы): „Песьні Жальбы" Быліны, „Дэклямацыі" рожн. аўт. і „Трахома і сьлепата" д-ра Былінскага.

6) Гліна-Блінскі, студэнцкі прэзэс: „Безназоўнае" Я. Купалы і „Казка аб вадзе" Бэльлямі.

7) Дрозд-Мастацкі, бел. баярын: „Сьмех ня грэх" Ст. Станкевіча, „Неба і зоры" Казячага і „Вар'ят без вар'яцтва" Нарцызава.

8) Д-р Ігналінскі (Прэзэс Брацтва Хітрых Дзядзькоў): „Жанімства па радіо" Грынкевіча „Модны шляхцюк".

9) Казьлёнак Бладысь, гайсацкі генарал: „Цудоўная ноч" Салаўёвай, „Дзіцячы сьпеўнік" Грыневіча, флірт „Залёты" і „Як трымацца змалку" Грыневіча.

10) Карузлы, экс-пасол: „Смык беларускі" Багушэвіча, „Асновы Грамадзкай Гаспадаркі" Більдзюкевіча і „Босыя на вогнішчы" Чарота.

11) Мякінчыць: „Залёты" Марцінкевіча. „Апошняе спатканьне" Галубка". „На ростані" Жылкі.

# ХРОНІКА.

— **Популярна-навуковыя лекцыі.** З увагі на тое, што істнуючыя ў Вільні культурна-асьветныя арганізацыі зусім спынілі ладжаньне популярных лекцыяў, якія адбываліся ў мінулых гадох болей-меней сыстэматычна,— Урад Беларускага Навуковага Т-ва, сьцьвярдзіўшы вялізарную патрэбу гэткіх лекцыяў для самых шырокіх колаў грамадзянства, пастанавіў прыступіць да ладжаньня лекцыяў кожную нядзелю, пачынаючы ад м-ца лютага. З гэтай мэтай Урадам выдзелена адумысная Камісія, якая распачала падгатаваўчую працу—з тым разьлікам, каб першая лекцыя адбылася ўжо ў першую нядзелю лютага (7-га лютага). Цэлы рад ведамых лектароў згадзіўся прыняць учасьце ў гэтай акцыі.

У сувязі з тым, што ў лютым і сакавіку прыпадаюць угодкі сьмерці „Цёткі", Костуся Каліноўскага і Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага), намечаны лекцыі, пасьвячоныя іх жыцьцю і працы. Пра „Цётку" прачытае лекцыю 7 лютага гр. А. Луцкевіч, пра Костуся Каліноўскага—20 сакавіка гр. Чарноцкі. Уладжаньнем 10-тых угодкаў сьмерці Антона Лявіцкага лекцыйная камісія займецца асобна.

Праграма лекцыяў на 7 лютага (нядзеля) зьмяшчае дзьве лекцыі: 1) д-ра М. Ільяшэвіча — „Уплыў фізычна-географічных варункаў на ўтварэньне беларускага тыпу"; 2) гр. А. Луцкевіча — „Пясьнярка-барацьбітка" (Жыцьцё і творчасьць „Цёткі"). Лекцыі будуць чытацца ў салі Віленскае Беларускае Гімназіі (Вострабрамская 9). Пачатак у 6 гадз. веч. Уваход вольны і бясплатны.

Плян лекцыяў на месяц люты падамо ў наступным нумары.

— **„Нёман".** Як даведываемся, чарговы нумар „Нёмна" мае выйсьці ў месяцы лютым у павялічаным разьмеры.

— **Падзякі.** Дырэкцыя Бел. Музэю ім. Ів. Луцкевіча ў Вільні дзякуе за ахвяраваныя рэчы: вучню В. Б. Г. Паульскаму за 7 манэт і 4 мэдалікі і вучаніцы В. Б. Г. Матысік — за нумар газэты „Dziennik Poznański" з 1864 г.

— Бацькаўскі Камітэт В. Б. Г. дзякуе Яго Эксцэленцыі Гахану Караімскае Царквы Хан Шапшалу за ахвяраваныя замест білету на канцэрт на незаможных вучняў 5 злот.

— **Ізноў сьмяротныя прысуды.** Даразны суд у Баранавічах засудзіў за шпіёнства Аляксандра Морду на кару сьмерці праз павешаньне, а Мікалая Казакевіча, Сяргея Ардзея і Барыса Коржыча — на вечную катаргу. Морду ўжо павесілі.

— У Маладэчне засуджаны на сьмерць за шпіёнства на карысьць сумежнае дзяржавы і павешаны тамтэйшы жыхар Сарока.

— У Вялейцы (пав.) засуджаны на кару сьмерці праз павешаньне за шпіёнства Альгерд Шабуня, 25 гадоў. Як і ў іншых выпадках сьмяротных прысудаў за шпіёнства, п. Прэзыдэнт адмовіўся памілаваць Шабуню, і ў мінулую суботу ён быў павешаны.

— Агулам ад часу ўвядзеньня даразных судоў (ад верасьня мін. году) на абшары Віленскага Акружнага Суда было 15 сьмяротных прысудаў. У 12 выпадках кара сьмерці выканана. Пераважаюць справы за шпіёнства.



# Корэспондэнцыі.

## Дзяржыцеся свайго!

(З-пад Лаварышак.)

Дзіўная рэч. Здавалася-б, жывем мы пад самым местам Вільняй — у адлежнасьці 20 кілям. ад сталіцы Заходняй Беларусі, дзе зьмяшчаюцца цэнтры беларускай нацыянальнай думкі, дзе стольні беларускіх партыяў, выдавецтваў, кніжніц, газэт і т. д.,—дык павінна было адтуль да нас даходзіць беларускае друкаванае слова, газэта, кніга. Але-ж дзе там! Відаць, нашыя павадыры так заняты сваімі споркамі ды спрэчкамі аб тым, хто з іх... лепш служыць народу, лепш споўняе задачу пашырэньня беларускай нацыянальнай сьвядомасьці шляхам друкаванага беларускага слова, што... аб вёсцы, навет пабліз самай Вільні, цалком забыліся... Што-ж ужо казаць пра далейшыя мясцовасьці, пра рожныя цёмныя, глухія куты нашае шматпакутнае краіны!..

Запраўды-ж паслухайце, што здарылася ў нас у нашай вёсачцы (не называю яе тутака ўмысна) у апошнія дні. Паехаў адзін з нашых маладых гаспадароў у Вільню з дрывамі. Прадаў дровы нейкаму пану, ведама-ж зьвяртаючыся да яго у „панскай"— польскай —мове. А той—як зьдзівіцца: ці-ж вы, паке гаспадар, з Варшавы? Не, адказывае той: с-пад Лаварышак. Дык—беларус?—пытаецца, сьмяючыся. Але-ж,—кажа ўжо па нашаму—беларус. Дык чаму-ж вы,—кажа—сароміцеся вашай, дадзенай вам Богам, ды пакіненай вам ад дзядоў ды прадзядоў мовы? Слова за слова, тое ды сёе, пачалі гутарыць ужо панашаму. Разрахаваліся начыста, напаіў той пан яго гарбатай ды даў яму яшчэ шмат кніжак беларускіх — і „польскімі" літэрамі і „гражданкай" — старадаўнім беларускім альфабэтам. Прывёз гаспадар кніжачкі дамоў. А ў яго сям'і — ён сам каталік ды граматны „лацінкай", а брат ягоны—праваслаўны, дык чытае „гражданкай", ці як кажуць „расейскімі" літэрамі. Дык разам узяліся за кніжкі. Пачалі голасна чытаць „Заручыны Паўлінкі". А сястра ў іх якраз Паўлінка! Зараз-жа, няведама скуль ды як, даведалася аб кніжках уся нашая вёсачка — набілася ў хату поўна народу, асабліва-ж моладзі.—Такой радасьці, захопленьня ня было ў нас даўно. Разабралі ўсе кніжкі,—сярод іх і вершы, і апавяданьні, ёсьць і паважнейшыя—і проці п'янства, дый як бараніцца ад заразы, і розныя гаспадарчыя і навуковыя і усе—пабеларуску, панашаму! Шмат сьвятла і карысьці для нашай цемнаты. Чаму-ж гэта так здарылася, што гэтыя кніжачкі трапілі да нас толькі прыпадкам?!. Ці-ж гэта ня ганьба?! Дый каго вінаваціць у гэтым? Ці нас саміх, што жывем тутака пад самай Вільняй, але ніколі, едучы па вуліцах яе, не заглянем у нашыя кніжніцы (ёсьць на рагу Вялікай і Гэтманскай беларуская кнігарня), ці можа і нашых правадыроў, што забыліся аб нашай дробнай вёсачцы. Але добра і тое, што, хаця і прыпадкова, але зроблены добры пачатак. Дзяржыцеся-ж цяпер роднай мовы і свайй кніжкі, беларусы!

Дрывасек.

## Porzecze k/Grodna.

W dniu 25 grudnia 1931 roku w sali I-II kl. dworca st. Druskieniki znajdowało się kilka osób robotników, mieszkańców miasteczka Porzecza, czekając na pociąg. W tym czasie do poczekalni wszedł zawiadowca tejże stacji p. Gołębiowski z komendantem 'posterunku i podniesionym głosem zawołał: „Tu miejsce dla pasażerów, proszę ztąd wyjść". Jeden z obecnych wyznania prawosławnego oświadczył, iż on jest właśnie pasażerem, gdyż czeka na pociąg, którym ma odjechać. P. zawiadowca puścił szereg obelg, a między innemi: „Psia krew ci prawosławni, ja bym ich wszystkich porozpędzał, darmo tylko jedzą chleb polski". Zebrani opuścili salę i wyszli do Hali dworcu. P. Gołębiowski podszedł powtórnie w hali do owego robotnika, który w tym czasie rozmawiał ze swoim zwierzchnikiem, i wobec całej publiczności ponowił swoje obelgi, szczególnie naciskając na wyznanie.

Dziwnem się musi wydać każdemu takie zachowanie się p. Gołębiowskiego, który widocznie uważa robotnika prawosławnego za coś, co się nie powinno znajdować ani w poczekalni dworca, ani też jechać pociągiem, ani w Państwie Polskim wogóle. Zachodzi pytanie, czy tacy osobnicy, jak p. Gołębiowski, na tak reprezentacyjnem stanowisku, jak „Zawiadowca stacji" na naszych kresach północno-wschodnich, których ludność składa się z różnych narodowości i wyznań, swem postępowaniem przyniesie korzyść dla Państwa Polskiego, i czy traktowanie obywateli Polskich, należących do mniejszości, jako „psia krew", mogą mieć dla Państwa dodatnie skutki?

(Подпіс паданы для ведама Рэдакцыі).

# КОНКУРС.

Агалашаю конкурс на повесьць. Повесьць павінна быць творам новым, нідзе не друкаваным. Тэма—на выбар укладчыка, але пажадана: з часоў прыгону, з жыцьця кутнікаў і пляцавікоў пасьля прыгону, з часоў нашаніўскай пары, з часоў перавалаў вялікай вайны праз наш край. Мова павінна быць чыстая беларуская, склад гладкі і лёгкі да чытаньня. Велічыня повесьці павінна быць такая, каб зьмясьціць у кніжцы падобнай да кніжкі: „Прынц і Жабрак, пераклад Макара, 1928 г.",—ня менш як на 160 балонак. Повесьць павінна быць перапісана на машынцы, або пяром, але так выразна, каб лёгка было прачытаць. Ані на пачатку, ані на канцы повесьці ня трэба пісаць ані прозьвішча, ані псэўдоніму ўкладчыка. Прозьвішча-ж, ці псэўдонім трэба напісаўшы на асобную картачку ўлажыць у асобны канвэрт; а тады канвэрт гэты разам з перапісанай повесьцяй асабіста перадаць мне, або прыслаць да 1 верасьня 1932 г. пачтовай пасылкай па адрасу: Вільня, Кальварыйская вул. 53—2. Прозьвішчы-ж, ані псэўдонімы ня маю права падаць да ведама Конкурсовага Суда перш, а толькі пасьля ацэны конкурсовых твораў.

У склад Конкурсовага Суда запрошаны д-р Я. Станкевіч, настаўнік Вінцусь Грышкевіч і Антон Луцкевіч. Яны могуць кооптаваць у склад Конкурсовага Суда яшчэ двух экспэртаў. Конкурсовы Суд агалосіць у кастрычніку 1932 г. сваю ацэну твораў і вызначыць прэміі за першыя па яго асуду лепшыя творы. Прэміі вызначаюцца тры: на 300, 200 і 100 залатовак. У працягу двух тыдняў пасьля агалашэньня рэзалюцыі Конкурсовага Суда будзе выплачана прэмія. Пасьля гэтага задарма буду мець права пусьціць у друк першае выданьне прэм'ёваных твораў. Далейшае права друку пераходзіць да аўтара.

Творы іншыя, прысланыя на конкурс будуць зьвернены ўкладчыкам, калі яны таго пажадаюць; права друку гэтых-жа твораў належыць да асобнага ўгавору.

Адварды Будзька.

# УСЯЧЫНА.

**Камэты 1932 г.** 1932 год багаты будзе на камэты, якіх мае зьявіцца блізка сонца і нашай зямлі аж 9.

**Ахова вока.** Дзеля таго, каб забясьпечыць вока ад розных шкодных бактэрыяў, якія лёгка трапляюць у вока з паветрам, прырода ўзброіла яго ў натуральнае дэзынфэкцыйнае срэдства — сьлёзы. Сьлёзы зьяўляюцца настолькі сільным антысэптычным срэдствам, што вельмі слабы расчын іх (у адносінах—1:40000) яшчэ забівае шмат якія бактэрыі.

**Вівісэкцыя і кіно.** У сярэдніх і пачатковых школах Італіі забаронены крывавыя досьледы над жывымі жывёлінамі—т. зв. вівісэкцыя. Досьледы гэныя заступяць кінематографічныя зьнімкі.

Вівісэкцыя будзе дазволена толькі пры навуковых працах у вышэйшых школах.

Рэдактар-выдавец: М. СІНЯУСКІ. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22